ГРОДНА
№23 (552),
20 снежня 2020

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Абрад вігілійнай вячэры




*Вігілія Божага Нараджэння з'яўляецца прыгожым і кранальным часам. Глыбокае ўспрыняцце гэтага вечара яднае родных, пакідаючы ў сэрцы прыемныя ўспаміны.*

*на старонцы* 2

## Недасяжны ідэал?




*"Святасць у сям'і – гэта не пра ідэальных людзей. Гэта пра падзенні і падтрымку, пра памылкі і прабачэнне".*

*на старонцы* 5

## Лепшае заўтра залежыць ад нас цяперашніх




*У прыпавесці пра чужынца на дарозе няма таго, хто хацеў бы дапамагчы, але абставіны не дазволілі...*

*на старонцы* 6

# СТОЛЬКІ РАДАСЦІ, НІБЫ ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ НЕ ТОЛЬКІ Ў ЕЗУСА, АЛЕ І Ў КОЖНАГА З НАС!




*З мастачкай Надзеяй Букай пра Раство і сюррэалізм.*

*на старонцы* 3

## УМІЛАВАНЫЯ Ў ХРЫСЦЕ ПАНУ БРАТЫ І СЁСТРЫ! ДАРАГІЯ ДЫЯЦЭЗІЯНЕ!



**У таямніцы Уцелаўлення Пан Бог паказвае нам сваю чулую любоў, прыніжаючы сябе да мізэрнасці чалавека, каб быць Эмануэлем – Богам з намі. Няхай бязмернасць гэтай Божай любові напоўніць сэрцы ўдзячным здзіўленнем, бязмежнай радасцю і дзіцячым даверам. Няхай народзіцца у нас гарачае жаданне дзяліцца любоўю з кожным, каго спаткаем на сваім жыццёвым шляху.**

**Жадаю ўсім Вам поўных радасці, душэўнага супакою, надзеі і аптымізму свят Божага Нараджэння, а таксама шчодрасці ўсялякіх ласкаў у новым 2021 годзе Панскім!**

*З пастырскім блаславеннем*
*Аляксандр Кашкевіч*
*Біскуп Гродзенскі*

СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!



Усяго праз некалькі дзён у духу веры мы будзем перажываць святыя, радасныя гадзіны свят Божага Нараджэння. Ішлі да іх дарогамі Адвэнту – часам рэкалекцый, споведзі, раратніх набажэнстваў, што скіроўвалі позірк на Марыю – Маці Бога і ўсяго чалавецтва.

Святкуючы Божае Нараджэнне, мы павінны яшчэ раз паверыць і з верай прыняць сціплы, убогі і вельмі просты спосаб прыйсця Бога ў свет. Не можам даць сябе ашукаць свецкаму ззянню і міражам сапраўднага святла, якія прыцягваюць наш позірк і нашы сэрцы. Не зможам тады правільна пражыць Раство, калі напоўнім сябе падарункамі, абедамі і вячэрамі, але не дапаможам хоць аднаму бедняку, падобнаму да Хрыста, які ў Божае Нараджэнне прыйшоў убогі.

Гэта не будзе Божае Нараджэнне, калі, завязнуўшы ў абыякавасці, мы не захочам распазнаць і прыняць аблічча Пана ў чалавеку слабым і пакутуючым, у хворым і пакінутым іншымі альбо ў тым, хто шукае сваё месца. Гэта таксама не будзе Божае Нараджэнне, калі застанёмся пагружаныя ў спрэчкі, якія нас так моцна раздзяляюць і ў якіх будзем узаемна папракаць за памылкі і працягваць крыўдзіцца адзін на аднаго. Гэта не будзе Божае Нараджэнне, калі з-за страху ці з-за таго, што так зручней, мы замкнёмся ў сваім свеце, не бачачы ні сэнсу, ні неабходнасці выходзіць да іншых. Божае Нараджэнне настане толькі тады, калі адрачэмся ад бязбожнасці ды пажадлівасці свету і пачнём жыць разважліва, справядліва і набожна (параўн. Ціт 2, 12).

Няхай Езус Хрыстус заўсёды будзе ў нашых сэрцах і ў нашых дамах. Няхай Ён пагасіць усякі разлад, узмоцніць любоў, вызваліць ад ланцугоў граху і напоўніць сапраўднай радасцю.

Шчаслівых свят Божага Нараджэння! Сустрэнемся зноў у новым 2021 годзе!

кс. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**24 снежня**

***Вігілія Божага Нараджэння.***

*Вігіліяй каталікі распачынаюць святкаванне Божага Нараджэння. У нашай традыцыі гэты дзень мае посны характар, калі не спажываецца мяса, а сама ўрачыстая вячэра пачынаецца, калі на небе ўзыходзіць першая зорка. Найважнейшы момант вігілійнай вячэры – дзяленне аплаткай у знак згоды і прымірэння.*

**25 снежня**

***Урачыстасць Нараджэння Пана.***

*У Божае Нараджэнне, другое па значнасці свята ў хрысціянскай літургіі, Касцёл разважае таямніцу Уцелаўлення. Адзінародны і спрадвечны Божы Сын прыняў чалавечую натуру, каб у ёй збавіць людзей.*

**26 снежня**

***Свята св. Стэфана, дыякана і мучаніка.***

*З Дзеяў Апосталаў даведваемся, што св. Стэфан быў адным з сямі дыяканаў маладога Касцёла, абраным для апекі над удовамі і беднымі (Дз 6, 1–6). Яго харызматычныя пропаведзі прывялі да таго, што быў абвінавачаны ў блюзнерстве супраць Святыні і Закона. Пасля судовага разбору натоўп выцягнуў маладога дыякана з горада і там, каля Дамаскай брамы, забіў камянямі за веру.*

**27 снежня**

***Свята Святой Сям'і.***

*Свята было ўстаноўлена ў час пантыфікату папы Льва XIII і адзначаецца ў Каталіцкім Касцёле ў першую нядзелю пасля Божага Нараджэння. У гэты дзень мы асабліва чынам молімся ў інтэнцыі нашых сем'яў – каб былі падобныя да Святой Сям'і з Назарэта, паказвалі вернасць Богу, Крыжу ды Евангеллю ў сваім паўсядзённым жыцці і каб кожная з іх была "хатнім Касцёлам".*

**28 снежня**

***Свята свсв. Немаўлят, мучанікаў.***

*У гэты дзень успамінаем забойства немаўлят, учыненае па загадзе правіцеля Галілеі Ірада. Хлопчыкам да двух гадоў, забітым у Бэтлееме і ваколіцах, св. Ірыней, св. Кіпрыян, св. Аўгусцін і іншыя Айцы Касцёла прысвоілі тытул мучанікаў.*

**1 студзеня**

***Урачыстасць св. Багародзіцы Марыі.***

*Гэта самае старажытнае марыйнае свята, якое адзначалася яшчэ перад Эфескім саборам (431 г.), дзе Марыя атрымала тытул "Theotokos" (Багародзіца). Прысвячэнне Маці Божай першага дня новага года таксама прадстаўляе Яе як самае дасканалае стварэнне і першую, хто скарыстаў дары Хрыста.*

# АБРАД ВІГІЛІЙНАЙ ВЯЧЭРЫ Ў СЯМ'І

*працяг са с. 1*



**ПАРАДАК ВІГІЛІЙНАЙ ВЯЧЭРЫ**

На цэнтральным месцы ў пакоі ставяцца яслі з фігурай Дзіцятка Езус. Стол засцілаецца белым абрусам (можна аздобіць яго ялловымі галінкамі). Пад абрусам змяшчаецца сена. Пасярэдзіне стала ставіцца вігілійная свечка, святло якой з'яўляецца сімвалам прысутнасці Хрыста. Побач кладзецца Біблія і аплатка.

Калі на небе з'яўляецца першая зорка, на ўспамін Бэтлеемскай зоркі, сям'я збіраецца за вігілійным сталом. Адно месца пакідаецца вольным як знак памяці пра памерлых блізкіх і пра падарожнікаў, якія неспадзявана могуць пастукацца ў дзверы.

Усе стаяць, а старэйшы член сям'і запальвае свечку. Пасля гэтага кажа: *Гэта Святло, якое сённяшняй ноччу прыйшло на зямлю, каб рассеяць цемру граху.*

**Усе адказваюць:** *Дзякуй Богу.*

**Кіраўнік:** *У імя Айца і Сына, і Святога Духа.*

**Усе:** *Амэн.*

Бацька ці старэйшая асоба з сям'і чытае фрагмент Евангелля паводле Лукі:

*"У тыя дні выйшаў загад ад цэзара Аўгуста зрабіць перапіс па ўсёй зямлі. Гэта быў першы перапіс падчас панавання Квірынія ў Сірыі. І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў свой горад. Пайшоў таксама і Юзаф з Галілеі, з горада Назарэта, у Юдэю, у горад Давіда, званы Бэтлеем, бо ён быў з дому і роду Давіда, каб запісацца з Марыяй, заручанай з ім, якая была цяжарнай. А калі яны былі там, надышоў Ёй час нарадзіць. І нарадзіла Сына свайго першароднага. І спавіла Яго, і паклала ў яслі, бо не было ім месца ў заездзе. У той ваколіцы былі на полі пастухі, якія вартавалі ўначы свой статак. Раптам з'явіўся ім анёл Пана, і хвала Пана асвяціла іх, і вялікі страх ахапіў іх. І сказаў ім анёл: «Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народа, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, якім ёсць Хрыстус Пан. І вось вам знак: знойдзеце Немаўля, спавітае і пакладзенае ў яслях». І раптам з'явілася з анёлам вялікае войска нябеснае, якое праслаўляла Бога і ўсклікала: «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі»" (Лк 2, 1–14). Гэта слова Пана.*

**Усе:** *Хвала Табе, Хрыстэ.*

Затым спяваецца калядка.

**СУПОЛЬНАЯ МАЛІТВА**

Бацька ці маці прамаўляе просьбы, усе адказваюць: "Выслухай нас, Пане!".

**К:** *Божа, наш Ойча, у гэтую ўрачыстую гадзіну праслаўляем Цябе і дзякуем за ноч, калі паслаў у свет свайго Сына Езуса Хрыста, нашага Пана і Збаўцу. Просім Цябе, удзялі нашай сям'і дар любові, згоды і супакою. Цябе просім…*

**У:** *Выслухай нас, Пане!*

**К:** *Адары нашых суседзяў, сяброў і знаёмых супакоем гэтай ночы. Цябе просім…*

**У:** *Выслухай нас, Пане!*

**К:** *Усіх пакінутых, самотных, хворых, бедных, галодных ва ўсім свеце суцеш і ўмацуй Добрай Навіной гэтай святой ночы. Цябе просім…*

**У:** *Выслухай нас, Пане!*

**К:** *Нашых памерлых* (пералічыць імёны) *адары шчасцем і святлом Тваёй хвалы. Цябе просім…*

**У:** *Выслухай нас, Пане!*

**К:** *Пане Божа, Ты ўчыніў, што гэтая святая ноч заяснела бляскам сапраўднага святла Твайго Адзінароднага Сына. Учыні, каб і мы яснелі бляскам Твайго святла ў сваім штодзённым жыцці. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.*

**У:** *"Ойча наш…".*

**ЛАМАННЕ АПЛАТКАЙ І ПАЖАДАННІ**

Абрад ламання аплаткай вучыць, што нават апошнім кавалкам хлеба трэба дзяліцца з бліжнімі, і разам з тым прыгадвае, што Божы Сын стаў Чалавекам і ўстанавіў Эўхарыстыю.

**К:** *А цяпер у духу любові і прабачэння падзелімся аплаткай – хлебам любові. Зычліва раскрываючы свае сэрцы ва ўзаемнай любові, мы адкрываем іх на прыход Пана. У Ім кожны чалавек знойдзе дабрыню і сяброўства. Няхай Бог заўсёды будзе ў нашым доме.*

Бацька сям'і складае пажаданні і ламаецца аплаткай спачатку з маці, а затым з астатнімі членамі сям'і. Тое ж робяць усе прысутныя.

**СПАЖЫВАННЕ ВЯЧЭРЫ**

На стол падаюцца толькі посныя стравы і безалкагольныя напоі. Спажыванне вячэры павінна праходзіць ў атмасферы сямейнай зычлівасці.

**МАЛІТВА ПАСЛЯ ВЯЧЭРЫ**

**К:** *Дзякуем Табе, Божа, наш добры Ойча, за Сына Твайго Езуса Хрыста. Дзякуем за любоў да ўсіх людзей, за гэты вігілійны вечар і дары, якія мы спажывалі. Табе хвала на вякі.*

**У:** *Амэн.*

Пасля вячэры святочны настрой падтрымліваем спевам калядак і ўзаемным адорваннем падарункамі. Каля елкі чакаем Пастэркі, на якую, па меры магчымасці, накіроўваемся ўсёй сям'ёй.

# СТОЛЬКІ РАДАСЦІ, НІБЫ ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ НЕ ТОЛЬКІ Ў ЕЗУСА, АЛЕ І Ў КОЖНАГА З НАС!

працяг са с. 1

**Надзея Бука – папулярная беларуская мастачка, вынаходніца незвычайнага стылю выцінанкі – "буцінанкі" – і стваральніца дзіўнага казачнага сусвету, які насяляе шэраг дабрадушных істот.**

**Надзя – каталічка, якая не аддзяляе веру ад творчасці і напаўняе свае працы хрысціянскім сэнсам. У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" размаўляем з мастачкай аб Божым Нараджэнні праз прызму творчасці.**

Ангеліна Марцішэўская

***– Адзін з цэнтральных вобразаў у Вашай творчасці – Пігглас, які прадстае ў выглядзе вока з крыламі, заўсёды чувае і вучыць добрым учынкам. Чым Вы натхняліся, калі стваралі яго?***

– Гэтага персанажа я прыдумала спантанна 10 гадоў таму. Шпацыравала па горадзе, калі раптам Святы Дух паслаў мне ідэю: цудоўна, каб у нашай сучаснасці была міфічная істота, якая ахоўвала б чалавека і была бачна толькі таму, каму належыць.

У нас, хрысціян, такую ролю выконвае Анёл-ахоўнік. А Пігглас – гэта як маленькі памагаты Анёлаў. Ён яшчэ служыць прыкладам для пераймання: у сваёй бясконцай дабрыні заўсёды робіць штосьці годнае. Спачатку Пігглас з'явіўся на карціне, а пасля стаў галоўным героем байкі, якая выйшла ўжо ў 2-юх частках. Цешыць, што яго палюбілі дзеці: у лістах яны прызнаюцца мне, што Пігглас натхняе іх паводзіць сябе сумленна.





Ілюстрацыі да любімага дзецьмі зборніка вершаў "Святы Мікалай, да нас завітай!"

***– Як Вы намацваеце кропку перасячэння двух плоскасцей – веры і творчасці? У чым бачыце плён?***

– Калі мастак вызнае веру ў Хрыста, гэта заўсёды будзе мець вялікі ўплыў на яго творчасць. Штораз, перш чым сесці рабіць ілюстрацыю, я прашу Бога, каб дапамог мне як мага дакладней перадаць на паперы задуму, што маю ў галаве.

Увогуле, у мяне шмат прац на хрысціянскія тэмы. Ствараю іх праз прызму свайго ўспрымання сучаснага свету. Адна з ключавых работ называецца "Раніца". На ёй дзяўчына ў чырвоных калготах, справа ад яе ружанец, злева – кубак кавы. Лічу, вельмі важна, каб сімвал веры чалавек мог сузіраць праз знаёмыя, звыклыя для яго вобразы.

4 гады таму я адкрыла студыю малявання "Крылы натхнення" пры мінскім касцёле св. Роха. Сярод навучэнцаў – і дзеці, і дарослыя. Першых гэта забаўляе і развівае, другім дазваляе разгрузіцца і расслабіцца. Кожны ўрок мы пачынаем і заканчваем супольнай малітвай.

Студыю наведваюць не толькі католікі, але і праваслаўныя, і тыя



з хрысціян, хто амаль не практыкуе веру. Зважаючы на тое, што заняткі адбываюцца ў будні, хтосьці пачаў пакрысе хадзіць на св. Імшу пасярод тыдня – проста заставаўся пасля ўрока. Былі выпадкі, што пасля наведвання студыі некаторыя дзеці прыступілі да першай св. Камуніі, хаця раней іх бацькі не збіраліся рыхтаваць іх да сакраманту. Я ўдзячная Богу за гэтую місію: весці людзей да Нябеснага Айца праз мастацтва. І спадзяюся, што кожны з іх прыйшоў да Яго надоўга.

***– Выяўленчае мастацтва выкладаеце не толькі ў Мінску, але і ездзіце з майстар-класамі па Беларусі. Неаднаразова наведвалі і нашу дыяцэзію. Сапраўдзіце, калі ласка, пра гэтыя візіты, большасць з якіх якраз была прысвечана тэме надыходзячага Раства.***

– Падчас майстар-класаў на тэму Божага Нараджэння старэйшым дзецям я звычайна прапаную рабіць святочныя паштоўкі, каб пасля яны маглі спрэзентаваць іх сваім родным. А з самымі маленькімі мы малюем Анёлаў-ахоўнікаў.

Існуе такая тэорыя, нібы нашы Анёлы-ахоўнікі моцна падобны да нас і носяць нашы імёны. І звычайна я даю вучням заданне адлюстраваць гэтага анёла так, каб ён быў як кропля вады падобны да аўтара. Зразумела, дзеці пачынаюць жаліцца, што не атрымаецца... Але заўсёды атрымліваецца! Часта дзякуючы маленькім характэрным элементам: ці то слухаўкі, ці то прычоска і колер валасоў...

Памятаю, цікавы эксперымент мы зрабілі ў Воранаве. Кожны з хлопчыкаў і дзяўчынак намаляваў свайго Анёла, а пасля мы паклікалі кс. Яўгена Эйсманта, каб ён па гэтых малюнках пазнаў, дзе чый "аўтапартрэт". І ў 90 % выпадкаў ён адгадаў, хоць узрост маленькіх мастакоў быў да 9-ці гадоў. Ці не фантастыка?

***– Так, чароўная атмасфера і асаблівы каларыт уласцівы Раству. Напэўна, гэта прываблівае творчых людзей. Якое адлюстраванне таямніца Нараджэння Збаўцы атрымала ў Вашым мастацтве?***

– Сапраўды, Каляды – маё любімае свята. Я візуал, і для мяне важна наглядная ўспрыманне таго, што адбываецца. Прыгожыя атрыбуты Раства знаходзяць ува мне жывы водгук: елка, агеньчыкі, пустыя яслі, у якіх пасля з'яўляецца фігурка Дзіцяці... Момант унясення ў святыню фігуркі маленькага Езуса заўсёды выклікае слёзы радасці ў вачах. Я маці двух сыноў, і мне зразумела тое, што адчувала Марыя пасля родаў.

Адзначу, што хрысціянскія калядныя ілюстрацыі займаюць значную частку майго творчага жыцця. Я рабіла серыю адмысловых паштовак, якія распаўсюджваліся ў касцёлах. Са святарамі адразу дамовіліся, што ўсе атрыманыя грошы пойдуць на падарункі дзецям, якія сёлета маюць асаблівую патрэбу ў дадатковых пазітыўных эмоцыях.

2 гады таму да мяне звярнуліся з прапановай – стаць адным з ілюстратараў новага зборніка калядных вершаў для дзяцей "Святы Мікалай, да нас завітай!". Я намагалася зрабіць усё так, каб хрысціянскія вобразы і сэнсы былі максімальна зразумелыя. Нават пры размалёўванні выкарыстоўвала не фарбы, але больш блізкія дзецям маркеры, толькі спецыялізаваныя, для прафесійных ілюстратараў. І ўжо на прэзентацыі зборніка па першай рэакцыі было бачна, што маленькім гасцям вельмі спадабался.

Да верша "Вігілія Божага Нараджэння" намалявала сучасную сям'ю, якая сабралася за супольным сталом і дзеліцца аплаткай. Тата – з барадой і завушніцай. Побач мама, дачка і кот, які сочыць за полымем свечкі. Ёсць ілюстрацыя хлопчыка, што назірае за месяцам, на якім спіць маленькі Езус, і чакае, калі Ён прачнецца. Музыку, якая льецца з калядных званочкаў, адлюстравала ў выглядзе святла, скрозь якое ляцяць сняжынкі. Кніга стала папулярнай. Яна і цяпер ёсць ва ўсіх парафіях Мінска, і пры жаданні яе можна замовіць у іншыя дыяцэзіі.

Сёлета я ўпершыню занялася размалёўкай ёлачных цацак. Дарэчы, большасць замоў паступае менавіта з Гродна. На шарах адлюстроўваю зімні горад, у якім адзначаюць Раства. Атмасферу свята перадаю праз выяву касцёла. Гэтай надае цаццы асаблівы сэнс: на ёй месца, дзе жывуць шчаслівыя людзі, пануе супакой, вера і любоў. Людзі адчуваюць пасыл, таму і попыт ёсць.

***– Сёлета краіна адзначае Раство ва ўмовах грамадска-палітычнага крызісу. Ваша парада: як захаваць святочную радасць, калі навокал разлад?***

– Зразумела, складана засяродзіцца на радасці, калі, напрыклад, святароў арыштоўваюць, мітрапаліт знаходзіцца ў выгнанні. А так хочацца ўбачыць галаву Каталіцкага Касцёла дома на Каляды!

Мы, беларусы, ідзём цяпер па цёмным тунэлі. Аднак варта адзначыць, што напрыканцы тунэля заўсёды гарыць святло. Мы думалі, што перааддольванне гэтай адлегласці будзе спрынтам, але аказалася – марафон. Я лічу, што тут ёсць Божы Провід, і Яго справядлівасць трыумфуе не толькі ў Небе, але і на зямлі. Адзінь і трэба чэрпаць радаснае натхненне.

Яшчэ можна пастарацца дадаць пазітыўных эмоцый у паўсядзённасць! Напрыклад, раней паставіць ялінку. І памятаць, што на Раства заўсёды здараецца цуд, галоўны з якіх – з'яўленне Дзіцятка Езуса сярод нас, нягледзячы ні на якія абставіны...

***– Як праходзіць свята Божага Нараджэння ў такога творчага чалавека, як Вы? Неардынарна ці традыцыйна?***

– Традыцыйна. Пастэрка ў касцёле, дзяленне аплаткай, сена пад абрусам, падарункі пад елкай, наведванне родных.

Неардынарнасцю ў гэтым пытанні хутчэй адрозніваюцца мае дзеці. Малодшы піша адразу два лісты: св. Мікалаю і Дзеду Марозу. На той выпадак, калі камусьці не дойдзе. І просіць падарунак для кошкі. Увогуле, падчас святкавання Раства ў нас столькі радасці, нібы дзень нараджэння не толькі ў Езуса, але і ў кожнага з нас!

***– Што пажадаеце вернікам на надыходзячыя святы?***

– Няхай Нараджэнне Хрыста 2020 запомніцца на ўсё жыццё добрымі, яркімі эмоцыямі, якія заслоняць увесь негатыў!

**Запрасіць Надзею Буку ў парафію правесці майстар-клас можна, звярнуўшыся да яе ў сацыяльных сетках: Facebook, Vkontakte ці праз Instagram (@nadia_buka). Творчыя заняткі мастачка арганізуе за ахвяраванне.**

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Выдадзены правілы для прасоўвання каталіцкай вышэйшай адукацыі

Святы Пасад выдаў інструкцыі аб узаемадзеянні ВНУ з касцёльнымі факультэтамі. Яны прыводзяць нормы ў адпаведнасць з Апостальскай канстытуцыяй "Veritatis Gaudium".

Дакументы Кангрэгацыі каталіцкай адукацыі сканцэнтраваны на трох ключавых паняццях: аб'яднанні, уключэнні і афіліяванні навучальных устаноў. Цяпер такія рашэнні прымае вышэйзгаданая ватыканская дыкастэрыя. Адпаведны дэкрэт дзейнічае на працягу 5-ці гадоў (яго можна падоўжыць яшчэ на 5 гадоў або адклікаць). Новыя інструкцыі пачнуць дзейнічаць з 2021/2022 навучальнага года.

### Пантыфік надаў кананічны статус Сусветнай сетцы малітвы

Кіраванне структурай працягне ажыццяўляць Таварыства Езуса. Яе міжнародным дырэктарам прызначаны кс. Фрэдэрык Фарнос.

Сусветная сетка малітвы была заснавана як Апостальства малітвы ў 1844 годзе ў Францыі. Рух аб'ядноўвае свецкіх вернікаў, духавенства і кансэкраваных асоб. З 2017 года Сусветная сетка малітвы рыхтуе кароткія відэаролікі, у якіх сам Пантыфік абвяшчае і тлумачыць малітоўную інтэнцыю на бліжэйшы месяц.

### Святы Айцец зноў выказаўся супраць смяротнага пакарання

Нагодай стала ініцыятыва Супольнасці св. Эгідзія і іншых грамадскіх арганізацый "Cities for Life" ("Гарады за жыццё").

"Памятайма, што нават забойца не губляе асабістай годнасці, і Бог сам становіцца яе гарантам. Цвёрдае непрыманне смяротнага пакарання дэманструе, наколькі магчыма прызнанне неад'емнай годнасці кожнага чалавека", – напісаў Пантыфік у сваім Twitter.

За апошнія гады колькасць краін, дзе гэтая мера пакарання не ўжываецца законна або на практыцы, вырасла да 142.

### Выйшаў з друку Крымінальны Кодэкс Ватыкана

Ватыканскае выдавецтва апублікавала заканадаўчы дакумент, які рэгулюе правапарушэнні ў дзяржаве.

Крымінальны Кодэкс Ватыкана адрозніваецца ад Кодэкса Кананічнага Права Каталіцкага Касцёла тым, што не распаўсюджваецца на рэлігійныя справы і не разбірае пытанні, што датычаць духавенства: ён разглядае толькі злачынствы, што караюцца і ў любой іншай краіне, каб гарантаваць справядлівасць і агульны парадак. Тым не менш, Кананічнае Права заўсёды з'яўляецца першаснай нарматыўнай крыніцай у прыняцці рашэння па судовай справе.

## Малітоўныя інтэнцыі на студзень

### паўсюдная

Молімся, каб хрысціяне і тыя, хто належыць да іншых рэлігій, а таксама людзі добрай волі ўмацоўвалі мір і справядлівасць у свеце.

### дыяцэзіяльная

Молімся ў інтэнцыі сужэнцаў, бацькоў і дзяцей, каб у сваіх сем'ях яны будавалі вузы хрысціянскай любові. Просім Бога аб святасці для нашых сем'яў.

# АДДАЙ СЯБЕ БОГУ!




*Кс. Тадэвуш Крыштопік*

Калі страх аб тым, што надарыцца можа, твой розум і сэрца ахопіць,
Прыпомні тады словы Езуса тыя, што Ён сваім вучням прамовіў:
"А людзі млець будуць ад жаху й трывогі, чакаючы, што на свет прыйдзе" –
Аддай сябе Богу, Марыі даверся, бо мы на зямлі пілігрымы!

Калі шквал праблем, пільных спраў і хваробаў падасца табе невыносным,
Адчуешся, нібы ў запрэжцы мурашка, тады прыгадай словы Псальма:
"Калі ўся зямля пахіснецца ў аснове, што можа зрабіць справядлівы?" –
Аддай сябе Богу і мужна змагайся: за ўласнае б'емся збаўленне!

Калі закране цябе зло альбо здрада і згубіш зямлю пад нагамі,
Калі пашкадуеш, што ўсё яшчэ жыў ты, успомні, што ў Псальме пяецца:
"Устрывожаны я, ад маркоты стаміўся, бо свет ненадзейны і лжывы!" –
Аддай сябе Богу, далей кроч адважна: Пан узмоцніць слабыя калені.

Калі твае немач і грэшнасць, як хмара, заслоняць дабро ўсё і Бога,
А бездапаможнасць душу запалоніць, узгадай тады, як Езус кажа,
Што людзі ўскрыкнуць: "Пападайце, горы! Схавайце нас ад гневу Пана!" –
Аддай сябе Богу з любоўю і скрухай: Ён збавіць цябе, Ён ласкавы!

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ЗША.** Палата прадстаўнікоў штата Агая прыняла законапраект, які патрабуе крэмацыі або пахавання цел дзяцей, жыццё якіх перапыняецца падчас хірургічных абортаў. Жанчына павінна даць пісьмовае распараджэнне, што рабіць з целам ненароджанага. У выпадку яе адмовы гэтае рашэнне прымае абортная клініка і здзяйсняе пахаванне за свой кошт. Законапраект прадугледжвае крымінальную адказнасць першай ступені для тых, хто свядома не клапоціцца аб далейшым лёсе абартаваных дзяцей.

**ІТАЛІЯ.** Пандэмія каранавіруса ўскладніла фізічны кантакт паміж членамі сям'і. У дамах для састарэлых ствараюцца спецыяльныя пакоі, дзе сваякі могуць абняцца падчас наведванняў. У "пакоях для абдымкаў" вісяць празрыстыя шторы, у якіх зроблены "рукавы" для рук. Дзякуючы такой канструкцыі можна прытуліцца да блізкага чалавека і мінімізаваць рызыку заражэння. Каб трапіць у спецыяльны пакой, сям'я павінна выконваць строгі пратакол гігіены і бяспекі.

**БРАЗІЛІЯ.** С. Лорэйн Каралін Цінці з Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Уваскрасення перамагла ў 17-ым эпізодзе кулінарнага шоў "Master Chef Brasil 2020" і выйшла ў фінал. "Бог мне дапамог", – сказала манахіня пасля праграмы, адзначыўшы, што малілася падчас гатавання страў. С. Лорэйн задаволена, што прымае ўдзел у кулінарным шоў, бо гэта дае магчымасць расказаць пра сацыяльныя праекты для пажылых людзей і дзяцей, якія яна рэалізуе.

**ФРАНЦЫЯ.** Велізарная карціна ў стылі стрыт-арт упрыгожыла святыню на курорце Шатэлаён-Плаж каля Ла-Рашэлі на ўзбярэжжы Атлантычнага акіяна. Яе стваральнік Амары Дзюбуа працаваў у скляпенні касцёла св. Марыі Магдаліны на працягу двух з паловай месяцаў. Нягледзячы на некаторыя негатыўныя рэакцыі, фрэска кранае людзей. Ёсць таксама тыя, каго настолькі прываблівае новы выгляд інтэр'ера святыні, што яны збіраюцца наведваць касцёл.

**ШВЕЙЦАРЫЯ.** Епіскапат выступіў супраць законапраекта аб "грамадзянскім шлюбе для ўсіх". У спецыяльнай заяве з гэтай нагоды біскупы падкрэслілі, што, з аднаго боку, яны падтрымліваюць намер парламента прызнаць роўныя правы ўсіх людзей, але, з іншага боку, "неабходна адрозніваць дыскрымінацыю і дыферэнцыяцыю". Іерархі адзначаюць, што такі крок можа выклікаць негатыўныя этычныя наступствы: каб мець нашчадкаў, аднаполыя пары павінны звяртацца да тэхналогій дапаможнай рэпрадукцыі, якія парушаюць правы дзіцяці ведаць сваё паходжанне.

***Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.***

# АДАМАВІЧЫ

*Андрэй Вашкевіч*

Калі ехаць з Гродна ў бок Сапоцкіна і Аўгустоўскага канала, можна ўбачыць справа ад дарогі касцёл у Адамавічах. Белая святыня вельмі прыгожа вылучаецца сярод маляўнічых зялёных пагоркаў Прынёмання.

Адамавіцкая парафія ўжо амаль урасла ў Гродна. Да таго ж, мясцовасць заўжды была цесна звязана з горадам. Гэтыя землі з даўніх часоў належалі рамеснай цэхавай эліце Гродна і гарадскому патрыцыяту. Ад прозвішчаў высокапастаўленых гродзенцаў і ўзніклі паселішчы Адамавічы і Міцкевічы.

Некаторыя прадстаўнікі рода Адамовічаў адыгрывалі значную ролю ў жыцці горада і нават займалі пасаду бурмістра. Зразумела, што яны павінны былі прыняць каталіцтва ў ліку першых. Таму не выклікае здзіўлення, што ў XVII стагоддзі манахіні ордэна св. Клары (бернардынкі) заснавалі ў Адамавічах невялікую драўляную каплічку. Перапіс 1677 года згадвае ў тутэйшым касцёле цудадзейны абраз Маці Божай Адамавіцкай.

Парафіі ў Адамавічах не было яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя, а навакольныя вёскі фармальна адносіліся да парафіі ў Гожы. Большасць рыма-католікаў наведвалі касцёлы Гродна, а грэка-католікі маліліся ў святынях у Балі ці Лабне. Пасля 1795 года Гожа апынулася ў складзе Расіі, а Адамавічы – у Прусіі. Нямецкія ўлады запатрабавалі стварыць асобную каталіцкую парафію. Так паўстала парафія ў Адамавічах.

Спачатку службы адбываліся ў капліцы бернардынак. Парафіі было выдзелена 9 валок зямлі, а таксама зямля пад могілкі. Пазней збудавана плябанія. Касцёл наведвалі гродзенскія мяшчане, якія мелі ўласнасць на левым беразе Нёмана. Бліжэй сярэдзіны XIX стагоддзя парафія стала дастаткова вялікай. У яе ўваходзілі двары Караліно і Лабна, ваколіца Падлабенне і больш дзесятка вёсак, у тым ліку Ласосна, Адамавічы, Польныя Багатыры, Пушкары, Салаўі.

Гісторыя будаўніцтва касцёла цягнулася больш за дзесяць гадоў. Спачатку абмяркоўвалася магчымасць пабудовы драўлянай святыні, аднак Касцёльны Дазор вельмі хацеў касцёл з цэглы. Конкурс на пабудову храма абвяшчалі тройчы, але за прапанаваныя сродкі ніхто не хацеў брацца. У выніку будоўлю "гаспадарчым спосабам" пачаў сам Спірыдон Гансоўскі, уладальнік Караліно і кіраўнік Касцёльнага Дазору.




*Парафіяльная святыня ў Адамавічах*

Мураваны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі быў узведзены ў 1854 годзе. Святыня ў стылі позняга класіцызму абнесена бутавай агароджай з вуглавымі капліцамі і трохслупнай брамай, абсаджанай невялікім скверам. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма спалучае прамавугольны асноўны аб'ём з квадратнай званіцай над яго галоўным фасадам. Унутраная прастора падзелена аркавымі прасветамі на малітоўную залу ды апсіду з бакавымі закрыстыямі і хорамі.

Жыхары Адамавіч, як і мясцовыя пробашчы, заўжды вылучаліся патрыятызмам і палітычнай актыўнасцю. Так у канцы XIX – пачатку XX стагоддзя святароў неаднойчы штрафавалі за спаведанне былых уніятаў, падазравалі ў малітвах за адраджэнне былой Рэчы Паспалітай. У 1905 годзе пляц перад касцёлам неаднойчы быў месцам выступленняў аратараў сацыялістаў, якія заклікалі парафіян змагацца з царызмам. Аднак касцёл не пераставаў дзейнічаць.

Пасля Другой сусветнай вайны святыня была часткова знішчана, але адноўлена ў 1990-ых гадах. Сёння яна ўключана ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

# НЕДАСЯЖНЫ ІДЭАЛ?

працяг са с. 1

**Разам з кс. Русланам Мазанам, новапрызначаным пробашчам парафіі Святой Сям'і ў Лідзе, разважаем над постацямі Юзафа, Марыі і Езуса, а таксама шукаем сляды іх прысутнасці ў жыцці вернікаў.**

Ангеліна Марцішэўская



***– Юзаф, Марыя і Езус жылі ў даўнія, моцна адрозныя ад нашых, часы: з іншымі клопатамі і радасцямі. Чаму яны могуць навучыць сучасныя сем'і?***

– Па-першае, у складаных сітуацыях не даваць пачуццям браць верх над сабой. Зразумела, чалавек – адзіная істота, якую Бог адарыў цэлым спектрам эмоцый, але разам з тым Ён даў людзям розум і веру. Таму мы можам асэнсоўваць тое, што адбываецца. І не насіць перажыванні ў сабе, але аддаваць іх Богу, каб негатыўнае Ён ператвараў у плённае. Добрым прыкладам гэтага можа быць сітуацыя са св. Юзафам, калі той даведаўся пра цяжарнасць Марыі. Яго апанаваў страх, хацеў збегчы ад Марыі, але дазволіў сабе выдыхнуць і ахвяраваўся Богу. Добра ведаем, што ў выніку прынятае ім рашэнне стала неацэнным для ўсяго чалавецтва.

Па-другое, не абвінавачваць адзін аднаго, але вырашаць праблемы разам, як гэта і павінна быць у сям'і. Выкарыстоўваючы папулярны слэнг, скажу, што сёння ў канфлікце кожны "топіць" за свой бок замест таго, каб падтрымаць адзін аднаго. Трэба разумець: ключ да гармоніі – гэта не адсутнасць непаразуменняў, а супольная праца над іх прадухіленнем. Святая Сям'я ў жыццёва важных і крытычных момантах была разам: нараджэнне Дзіцяці, уцёкі ў Егіпет, наведванне святыні, пошукі Езуса і г. д.

Па-трэцяе, і самае галоўнае, Святая Сям'я вучыць цалкам давяраць Богу. Адметна, што яна заўсёды захоўвала рэлігійныя практыкі: не існавала прычыны ці праблемы, якая магла б замінаць ёй наведваць святыню.

Варта таксама адзначыць, што кожны з членаў Святой Сям'і прапануе не абстрактную, а вельмі канкрэтную мадэль таго, хто кім з'яўляецца, чым займаецца і як сябе паводзіць. Юзаф – апякун, галава сям'і, які прымае канчатковыя рашэнні і бярэ адказнасць за іх. Марыя – галоўная падтрымка. Яна арганізуе да граху. Святасць у сям'і – гэта пра падзенні і падтрымку, пра памылкі і прабачэнне, пра гатоўнасць штораз пачынаць нанова будаваць



Кс. Руслан Мазан падчас цырымоніі ўвядзення на пасаду пробашча

быт, клапоціцца пра тое, каб усе ў сям'і мелі дастаткова фізічных сіл, і дзеліць з мужам абавязкі па выхаванні Сына. Езус, у сваю чаргу, з'яўляецца ўзорам для дзяцей. Нягледзячы на ўласную дасканаласць, аўтарытэт і дасягненні, Ён заўсёды заставаўся паслухмяны бацькам.

***– Вы апісалі бездакорны вобраз сям'і. Аднак, як паказвае жыццё, наблізіцца да святасці складана і аднаму чалавеку. Як гэта зрабіць цэлай сям'і, дзе прысутнічае калектыўная адказнасць?***

– "Сямейная" святасць – гэта не пра ідэальных людзей, якія не грашаць. На жаль, кожны чалавек схільны адносіны праз споведзь, св. Камунію і дыялог. Гэта таксама пра ўменне дзякаваць Богу і трываць у малітве, калі ўсё добра. Вельмі важным з'яўляецца і прыклад продкаў.

***– Вы служыце ў парафіі пад тытулам Святой Сям'і. Якім чынам на яе прыкладзе будуецца супольнасць вернікаў?***

– Гэта цудоўна рэалізоўваў светлай памяці былы пробашч кс. канонік Юзаф Ганчыц. Ён заўсёды акцэнтаваў увагу на тым, што з адкрыццём сужэнства на ідэалы Святой Сям'і нараджаецца сапраўдная сям'я. Асобныя сем'і ўтвараюць парафіяльную сям'ю, пасля – сям'ю Касцёла ў Беларусі, і ў выніку аб'ядноўваюцца ў вялікую сям'ю сусветнага Касцёла.

***– Як, дарэчы, Вас сустрэлі парафіяне?***

– Быў перыяд, калі я на працягу 5-ці гадоў служыў вікарыем у парафіі Святой Сям'і, і мне вельмі падабалася быць побач з кс. Юзафам: ён разумеў мае магчымасці і накіроўваў іх у правільнае рэчышча. Горка было прыняць праўду, што святара больш няма з намі...

Дэкрэт аб прызначэнні прыняў са здзіўленнем і пэўным хваляваннем. Кс. Юзаф быў роданачальнікам парафіі. Дзякуючы яму 25 гадоў таму яна ўзнікла сярод чыстага поля. Святар надаваў рытм жыццю гэтай супольнасці, заўсёды быў у руху: ствараў усемагчымыя ініцыятывы і суполкі.

Аднак, узгадваючы словы спачылага пробашча "аддавай усё Богу, і Ён задзейнічае", я зразумеў: ніхто не можа пераймаць дасканальна другога чалавека. Ды і не павінна гэта быць у прыярытэце.

Адзінае, што хачу адзначыць, я часта прыходжу да магілы кс. Юзафа. Як бы банальна гэта не гучала, прашу знака, як паступіць у тым ці іншым выпадку. Пытаюся і малюся аб распазнанні тых ці іншай парафіяльных ініцыятыў, якія кс. Юзаф хацеў рэалізаваць, але не паспеў.

Што датычыць мясцовых вернікаў... Парадокс у тым, што калі 3 гады таму я пакідаў парафію, мы не мелі магчымасці арганізаваць развітальную сустрэчу. Кс. Юзаф пасля падкрэсліваў, што Бог хоча нешта паказаць праз гэта. І калі я вярнуўся да парафіян у якасці пробашча, яны адзначылі, што я нібы і не сыходзіў. Прынялі мяне вельмі цёпла. Моцна кранула тое, што шмат людзей з "Маргарытак" запэўнілі ў памяці і малітве. Некаторыя з іх ахвяравалі ўсе 7 дзён тыдня малітоўнай падтрымкі ў інтэнцыі новапрызначанага пробашча. Ці не пацвярджае гэта, што парафія Святой Сям'і цалкам адпавядае свайму тытулу?

# АДЫШОЎ У ВЕЧНАСЦЬ КС. ПРЭЛАТ ЮРЫЙ СТЭЦКЕВІЧ

Кс. Юрый Марціновіч

*13 снежня па ўзнагароду да Пана адышоў пробашч парафіі св. Войцеха-Адальберта ў Калінінградзе (Расія) кс. прэлат Юрый Стэцкевіч. Яшчэ ў канцы верасня ён праводзіў у Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі рэкалекцыі для святароў...*



Кс. Юрый нарадзіўся 1 кастрычніка 1954 года ў Гродне. У дзяцінстве выехаў з бацькамі ў Польшчу на Заходняе Памор'е. У 1975 годзе паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Шчэціне. Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў 12 красавіка 1981 года.

Служыў у Шчэцінска-Каменскай архідыяцэзіі. Быў, між іншым, дырэктарам дыяцэзіяльнага выдавецтва, дыяцэзіяльнай друкарні і рэдактарам газеты. З чэрвеня 1991 года працаваў у Калінінградзе. Будаваў там сакральныя аб'екты. Выконваў абавязкі дэкана Каталіцкага Касцёла ў Калінінградскай вобласці, а таксама біскупскага вікарыя. Заснаваў першую ў Расіі каталіцкую рускамоўную газету "Калининградский католический вестник".

У 1996 годзе папа Ян Павел ІІ надаў яму тытул капелана Яго Святасці, а папа Бенедыкт XVI у 2013 годзе – годнасць ганаровага прэлата Яго Святасці.

Святар вельмі шанаваў бл. Цэліну Бажэнцкую. У Абрэмшчыне каля Заневічаў, на месцы былога маёнтка Цэліны і Юзафа Бажэнцкіх, дзякуючы стараннем кс. Юрыя і яго брата кс. прэлата Андрэя Стэцкевіча пабудавана невялікая капліца ў гонар блаславёнай. У будоўлю быў укладзены сімвалічны камень з былога маёнтка Бажэнцкіх.

16 снежня ў парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Язафата ў Заневічах (дэканат Вялікая Бераставіца), з якой святар асаблівым чынам звязаны, адбылася св. Імша ў інтэнцыі спачылага. У той жа дзень кс. Юрый быў пахаваны ў Калінінградзе, дзе служыў на працягу апошніх амаль 30-ці гадоў.

# АБАДРАНАЕ БОЖАЕ НАРАДЖЭННЕ

**Робім эксперымент: на Раство прыбіраем усё непатрэбнае. Здзіраем шпалеры, дакопваемся да сэнсу. Шукаем пачаткі, намацваем сутнасць. Будзе нязручна, а магчыма, нават балюча.**

Арцём Ткачук

### ПАЧНЁМ З БЛІСКАВАК

Прыхаваем ялінку, шарыкі, вяночак ды шкарпэткі на каміне. Няма сенца, ясляў. З вокнаў здымем гірлянды. Робім самы звычайны дом: чысты, правятраны, цёплы. Засцілаем стол, запальваем свечку.

Няма тэлевізара, няма інтэрнэта. На паліцы некалькі кніг. Сярод іх – Біблія.

Суседзі не запускаюць салюты. Цішыня. Сядаем.

### ПРЫБІРАЕМ САМАЎПЭЎНЕНАСЦЬ

Гэта ж трэба зараз пазбавіцца працы! Акурат перад святамі. Па вушы ў пазыках, крэдытах. У машыне ізноў сапсаваўся генератар. Ад апошняга заробку засталося зусім трошкі. Павінна хапіць на святы, а далей – невядома...

Яшчэ невядома, што з аналізамі. Доктар нешта круціў носам, казаў перездаць тое і гэта...

Усё неяк без сэнсу. Адчуваецца стомленасць. Ніякай падтрымкі. Жонка не разумее. Дзецям усё гулі. Сярод сяброў і знаёмых выглядаеш нейкім лузерам: ні на што не ўплываеш, вечна пакрыўджаны.

І вось ты за сталом. Навокал ніякіх бліскавак. Унутры таксама. Не да Сэнсу, не да Уцелаўлення. Ніякіх калядак, аплаткаў, жаданняў… Не да іх.

### СПОВЕДЗЬ

Бурыцца вонкавая ідылія. Ты, насамрэч, не самаадданы, не ахвярны, не сяброўскі, не закаханы, не культурны. Адкрыйся праўдзе! Шчыра, без самападману. Часам хітры, скваплівы, зайздросны, злосны. Пакінь свой знешні вобраз, выкрый сябе сапраўднага!

Вочы хаваюцца самі. Нязручна, нягегла. Гэта сапраўды балюча. Навошта ўвогуле гэты эксперымент, тым больш на святы?

Сядайма за стол Уцелаўлення. Як ёсць. Без страў, свабоднага месца, сенца і абруса. Сядайма хутчэй, і скончым з гэтым.

### СЫШОЎ З НЕБА

Навошта ўсё гэта Богу? Гэтая няпростасць, заблытанасць, бясконцая грэшнасць? Цэзар, сотнікі, фарысеі, садукеі... Інваліды, каментатары, праўладныя, непраўладныя... Глядзіш на ўсё – і не да спецэфектаў і бліскавак. Навошта, Бог, Табе гэта?!

Ты ўсё роўна сядаеш за стол з маёй свечкай. А я паводжу сябе, як нэндза. Ты глядзіш, маўчыш, усміхаешся. Так трэба. Прамаўляеш да мяне: "Досыць абдзіраць Раство". І мы павесілі з Табой гірлянду. Зрабілі паесці...

Эксперымент па пошуку Сэнсу Уцелаўлення скончаны. Ты быў, Ты сышоў. Усё для мяне. Я не адзін. Паўсюль і заўсёды. Вось і Сэнс Уцелаўлення!

# ЛЕПШАЕ ЗАЎТРА ЗАЛЕЖЫЦЬ АД НАС ЦЯПЕРАШНІХ

працяг са с. 1

**Новая энцыкліка папы Францішка "Fratelli tutti" ("Усе браты"), выдадзеная ў кастрычніку бягучага года, мае шмат аспектаў, карысных і каштоўных для разважання ў наш час. Аднак у канчатковым рахунку яна прапануе задумацца аб будучыні грамадства. Якая будучыня магла б стаць натхненнем для нашых высілкаў і адрачэнняў? Дзеля чаго ўсе мы нешта робім, змагаемся, ахвяруем сабой?**

Тэрэса Клімовіч


vaticannews.va

Жыццё ў рэжыме "тушэння пажараў" – вырашэння пільных пытанняў, якія навальваюцца адно за адным, – зусім не спрыяе пошуку адказаў на іх. І усё ж, варта час ад часу прыпыніцца і паглядзець на некалькі крокаў наперад, паразважаць, чаму адзіным выйсцем для чалавецтва Святы Айцец бачыць паўсюднае братэрства.

У першым раздзеле энцыклікі папа Францішак прапануе свайго роду дыягностыку становішча сучаснага свету, як заўсёды дакладную і праніклівую. А перад тым, як указаць на спосабы вырашэння праблем, ён запрашае засяродзіцца на прыпавесці пра міласэрнага самараніна. Менавіта падчас чытання гэтага раздзела са мной здарыўся выпадак, на які я, напэўна, не звярнула б увагі, калі б не словы Папы, над якімі якраз спынілася...

Нядаўна замест старога аўтамабіля мы купілі навейшы. Пасля рэгістрацыі я вярталася на ім дадому. Прыслухоўвалася да новых гукаў і сваіх адчуванняў. Разважала, ці будзе зручна вазіць дзяцей. Будзе лепш ці горш? Мабыць, лепш...

Перад з'ездам на МКАД на ўзбочны дарогі, якая ішла крыху ўгору, стаяў чалавек з паднятай рукой і кавалкам картону, на якім было напісана месца, куды ён прасіў падвезці. Здаецца, мне было па дарозе. Ужо выехаўшы на МКАД, я сфармулявала ў галаве ажно некалькі прычын, чаму не спынілася: было нязручна, за мной рухаўся вялікі шэраг машын на нешырокай дарозе, позна ўбачыла, я і так часта падбіраю людзей і г. д.

Але скрозь увесь гэты "туман" усё ж прабіўся праўдзівы сэнс таго, што адбылося: у момант атрымання Божага падарунка (у выглядзе новага аўто) я не здолела скарыстаць магчымасць дапамагчы чалавеку ў патрэбе. Вядома, што здольнасці, пасады, магчымасці, сродкі даюцца не толькі дзеля асабістага ўжытку, але і на карысць тых, каго сустракаем на сваім шляху. Не адна тысяча гадоў "залатому правілу": рабі іншым тое, чаго прагнеш, каб зрабілі табе. Аднак на практыцы такое кола "іншых" часта абмяжоўваецца тымі, хто падабаецца, становіцца блізкім. Хрысціянскае ж паняцце "бліжняга" нашмат шырэйшае. Калі выбар адносна лёгкі, то нават прыемна пабыць велікадушным чалавекам. А калі выбар такі, перад якім апынуўся самаранін з прыпавесці Езуса?

Папа Францішак, тлумачачы кантэкст і змест прыпавесці, піша: "Езус апавядае, што адзін чалавек пасля нападу разбойнікаў, пабіты, ляжаў пры дарозе. Яго абмміналі розныя асобы і, не затрымліваючыся, ішлі далей. Яны былі людзьмі, якія выконвалі розныя важныя функцыі ў грамадстве, аднак іх не хвалявала агульнае дабро. Яны не змаглі прысвяціць некалькі хвілін, каб паклапаціцца аб параненым ці, прынамсі, пашукаць дапамогі. Толькі адзін спыніўся, падышоў да чалавека і сам стаў лячыць яго. Заплаціў з уласнай кішэні, каб задаволіць яго патрэбы. Перш за ўсё, даў тое, чаго і нам часта не хапае ў гэтым паспешлівым свеце: даў яму свой час" (FT, 63).

"Цікава, – адзначае Папа далей, – як розніца паміж героямі гэтай прыпавесці поўнасцю змяняецца падчас балеснай сустрэчы з чалавекам, які ўпаў, прыніжаны. Ужо няма істотнай розніцы паміж жыхаром Юдэі і жыхаром Самарыі, святаром і гандляром; ёсць толькі два тыпы асоб: тыя, хто церпіць, і тыя, хто абмінае іх здалёк; тыя, хто схіляецца і распазнае ў тым, хто ўпаў, чалавека, і тыя, хто адводзіць позірк і паскарае крок. Нашы розныя маскі, нашы этыкеткі і нашы маскіроўкі сапраўды спадаюць: наступае момант праўды. Ці схіляемся мы, каб дакрануцца і перавязаць раны іншых? Ці схіляемся, каб узяць адзін аднаго на плечы? Гэта сённяшні выклік, якога не трэба баяцца. У крызісныя моманты выбар становіцца неадкладным: можна сказаць, што ў гэты момант кожны, хто не з'яўляецца злачынцам, і кожны, хто не праходзіць міма, або паранены, або нясе на сваіх плячах кагосьці параненага" (FT, 70).

Магчыма, занадта доўгія выбрала цытаты... Але, насамрэч, увесь гэты раздзел пад назвай "Чужынец на дарозе" вельмі красамоўны. Няма "трэцяга вобразу" ў прыпавесці – постаці таго, хто хацеў бы дапамагчы, але абставіны не дазволілі. Разам са сваімі апраўданнямі ён праходзіць міма, паскараючы крок. І тут важна не асуджаць (сябе і іншых), але, убачыўшы ўласны учынак у праўдзе, наступным разам з Божай дапамогай зрабіць лепшы выбар.

Праз свой аповед аб занядбанні дапамогі бліжняму я не заклікаю заўсёды і без разбор падбіраць і падвозіць усіх падарожных, а хачу сказаць аб патрэбе чуйнасці і міласэрнасці – і да людзей, якія навокал, і да саміх сябе, якім таксама не хапае магчымасцей, сродкаў і сіл даць рады з кожным людскім горам. Тым не менш, такое пачуццё слабасці і маласці не павінна рабіць жорсткімі нашы сэрцы, а нас – закрытымі і неадчувальнымі. Тымі матэрыяльнымі і духоўнымі дабротамі, якія Бог уклаў у нашы рукі ў гэты момант, хоць бы яны выглядалі дробязямі, мы можам распарадзіцца на карысць іншых і Яго хвалу.

"Змрок замкнёнага свету" – так назваў Папа першы раздзел энцыклікі, у якім разглядзеў складаныя і балючыя праблемы сучаснасці. Напэўна, ніхто не пажадаў бы сабе і нашчадкам, каб гэты змрок паглыбляўся, а не развейваўся. Аднак наблізкэнне лепшых часоў залежыць ад нас цяперашніх і ад нашага штодзённага выбару, бо, гледзячы на нас, растуць і сталеюць нашы дзеці. "Будзем жа марыць, як адна чалавечая сям'я, як вандроўнікі, створаныя з таго самага чалавечага цела, як дзеці той самай зямлі, якая ўсіх нас прыняла, кожнага з багаццем яго веры і перакананняў, кожнага з яго ўласным голасам, усіх, як братоў!" (FT, 8).

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Чаму шкодна занядбаць адпачынак?

ave-maria.by

*Як гэта ні парадаксальна, але сучаснаму чалавеку, у тым ліку хрысціяніну, трэба вучыцца адпачываць. Аказваецца, тэхналагічна развіты свет і слаба развітыя міжасобасныя адносіны пагражаюць нашай здольнасці нармальна функцыянаваць, не спрыяюць здароваму балансу паміж працай і адпачынкам. Перыяд адпускоў з'яўляецца добрай нагодай для рэгулявання гэтага жыццёвага балансу паміж актыўнасцю і пошукам магчымасцей рэгенерацыі сваіх сіл.*

*Галоўнае, пра што варта памятаць хрысціяніну ў арганізацыі адпачынку і карэкціроўцы працы, – гэта першая Божая запаведзь: ёсць толькі адзін Бог, і Яго нішто не можа засланіць. Усялякая неўпарадкаванасць імкнецца заняць месца Бога, сканцэнтраваць на сабе ўсе сілы, час, увагу. Тут варта ўзгадаць вядомы прынцып св. Аўгусціна: пастаў Бога на першае месца, і тады ўсё стане на сваё месца. Калі спачатку малітва, а пасля праца; калі спачатку нядзеля, а пасля працоўны тыдзень; калі спачатку св. Імша, а пасля пікнік, тады і праца, і адпачынак становяцца адпаведнымі і займаюць належнае ім месца ў жыцці.*

*Па-другое, варта памятаць, што няма ніякай працы, якая была б важнейшай за асобу: Бога і чалавека (параўн. Ян 13, 34). Калі ў сваёй актыўнасці, але і ў адпачынку не забываць пра тое, што шчаслівыя не адзінокія, а тыя, хто мае з кім падзяліць сваё шчасце, тады і праца, і адпачынак прыносяць сапраўдную асалоду. Бо радасць не ў выкананых дзеяннях або бяздзеянні, а ў перажыванні ўсяго гэтага разам з іншай асобай.*

*Па-трэцяе, варта не забываць, што сапраўдны адпачынак – гэта не поўнае бяздзеянне, а змена спосабу актыўнасці. Адпачынак неабходны нам для рэгенерацыі ўсіх сіл: і духоўных, і інтэлектуальных, і маральных, і фізічных. Неабходна даць сабе магчымасць вынырнуць з віру штодзённай занятасці, каб паглядзець на сябе збоку, даць сабе магчымасць новага дагляду, пераасэнсавання, карэкціроўкі іерархіі каштоўнасцей і прыярытэтаў (параўн. Мц 25, 14–30). Усё гэта немагчыма ў мітусні і руціне. Добрая праца патрабуе моманту творчага адпачынку, змены асяроддзя, новага месца, адкрыцця непаўторнага свету іншых людзей, канкрэтнага месца на час без працы.*

*Ёсць штосьці вельмі павучальнае ў тым, як Біблія апісвае працу Бога падчас стварэння свету (параўн. Быц 2, 2–3). Створца меў канкрэтную справу для выканання, якую і рэалізаваў. Пісанне падкрэслівае, што пасля скончанай творчай працы Бог адпачываў. Гэта быў спецыяльны час, каб паглядзець на плады сваёй працы, ацаніць іх, пацешыцца і падумаць пра будучыню. Ці не такога добрага, святога адпачынку шукае наша душа?*

# ТАЯМНІЦА БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ

**Перажываем найпрыгажэйшы перыяд у літургічным календары – час чакання Месіі. Але ці выходзяць нашы веды пра Божае Нараджэнне за межы агульнай традыцыі?**

Людвіга Цыдзік



Паклон Трох Каралёў, Андрэа Мантэньи, каля 1466 г.

Усе памятаем, што ў людскіх дамах не знайшлося месца для Дзіцятка Езуса і што Ён нарадзіўся ў беднай стайні. Мы таксама пераканаы, што першымі прывіталі Збаўцу пастухі. Затым зорка асвяціла дарогу і прывяла да стайні Трох Каралёў, каб паднеслі Езусу каштоўныя дары. Святкуючы, мы таксама чакаем, калі першая зорка асвеціць цемру на небе, каб у коле сям'і сесці за вігілійны стол. Затым запальваем свечку, спажываем 12 страў і дзелімся аплаткай. Так дыктуе традыцыя. Аднак ці задаёмся пытаннем, чаму святкуем менавіта так, а не інакш? Ці ёсць у гэтым нейкі глыбейшы сэнс? У рэшце рэшт, усё, што робіць Бог, невыпадкова, і ў многіх з'явах утоена вельмі дакладная і пранікліва сімволіка. Запрашаю на невялікую вандроўку вакол вялікай таямніцы Божага Нараджэння!

Каб усвядоміць усю глыбіню гэтага свята, трэба прыглядзецца, кім быў доўгачаканы **Месія** ў габрэйскай традыцыі. На іўрыце выраз **'Masziach'** (грэч. Messias або Christos) – памазаны, намашчаны – азначае асобу, абраную для выканання пэўных функцый, а таксама надзеленую важнай місіяй у Ізраілі: а менавіта святароў (параўн. Зых 29, 7), прарокаў (параўн. 1 Вал 19, 16) альбо каралёў. Пан Езус пра сваю місію гаварыў так: "Дух Пана Бога на мне, бо Пан намасціў мяне абвяшчаць добрую навіну ўбогім. Паслаў мяне перавязваць раны змучаных сэрцаў, прапаведаваць вызваленне палонным і вязням – свабоду" (Іс 61, 1).

Чаму такая важная постаць як Месія, Сын Найвышэйшага Бога, нарадзіўся ў беднай стайні, акружаны авечкамі? Ці ж не мог усемагутны Бог арганізаваць для Яго больш годныя ўмовы? Дык вось, гэта адбылося, перш за ўсё, таму, што Езус Хрыстус з дня свайго нараджэння пачаў выконваць дручаную Яму місію, якая заключалася ў вызваленні чалавецтва ад зняволення грахом і ад яго наступстваў, г. зн. праклёнаў убоства, голаду, холаду, прыніжэння, хваробы, непрыняцця і смерці. Таму з першых дзён Уцелаўлення на долю Божага Сына выпалі ўбоства, голад, холад і прыніжэнне. Больш за тое, гэта было прадвесцем здзяйснення прароцтва пра тое, што Хрыстос стане ахвярным баранкам, які сваёй Крывёю змые грахі чалавецтва (параўн. 1 П 1, 18–19).

У сваю чаргу горад Бэтлеем (іўр. Bêṯ Lehem, даслоўна "Дом Хлеба"; араб. Byte Lahm, даслоўна "Дом Мяса") стаў прадвесцем поўнай адданасці Хрыста як спажытку для чалавецтва. Жыхары Бэтлеема адварочваліся ад Езуса, таму што зачарсцвелі сэрцам, пагружаны ў грэх народ Ізраіля павінен быў адмовіцца і не прыняць свайго Месію.

Невыпадковыя і імёны мудрацоў, якія прыйшлі з Усходу, каб прывітаць Збаўцу і сапраўды па-каралеўску ўшанаваць Яго. Імя **Каспер** было запазычана з персідскай мовы ў іўрыт і арамейскую мову, і ў арыгінале гучала як **'gizbar'**, што азначае абавязак чалавека, які захоўваў скарбніцу, хавальніка казны, скарбніка. Хутчэй за ўсё, гэта мудрэц па імені Каспер прынёс Езусу ў дар золата, што само па сабе сімвалізуе годнасць і каралеўскую ўладу, каб прывітаць Караля Сусвету, якому належаць усе скарбы.

У імені **Мельхіёр** выразна гучаць два габрэйскія словы: **'melech'** (кароль) і **'or'** (святло), што азначае "Мой кароль (гэта) святло". Якое трапнае імя для чалавека, што павінен быў прывітаць Святло праўды сярод цемры граху і хлусні. Міра, складзенае ў дар Мельхіёрам, выкарыстоўвалася ў біблейскія часы падчас пахавальных урачыстасцей. Яно абвяшчала здзяйсненне старазапаветнага прароцтва пра Месію і прадказвала Яго муку і крыжовую смерць.

Імя **Бальтазар**, у сваю чаргу, мае вавілонскае паходжанне (Bēl-šar-uṣur) і запазычана ў іўрыт у форме **'Beltszassar'**, што азначае "Хай Бог ахоўвае Караля!". Імя давалася пры вавілонскіх дварах у якасці пажадання працвітання правіцелю. Магчыма, менавіта мудрэц з такім вытанчаным імем прынёс маленькаму Каралю ў дар ладан. Гэта сімвалізавала святарскую годнасць. У Старым Запавеце святар абкаджваў складваемую ахвяру, каб яна ўзнялася да Бога і была прынята. Ладан таксама выкарыстоўваўся як дэзінфікуючы сродак і ахова ад псавання. Трое Мудрацоў праз свае містычныя дары абвяшчалі праўду пра Таго, каму пакланіліся.

Вігілійная вячэра таксама мае невыпадковае і вялікае значэнне. У традыцыі Усходу на супольную вячэру запрашаліся толькі самыя давераныя асобы, з якімі заключаўся мірны запавет, якім можна было бязмежна давяраць, хто быў гатовы пайсці нават на смерць, каб абараніць гаспадара і яго сям'ю. Вігілійны стол, па прыкладзе алтара, становіцца сімвалам месца сустрэчы чалавека з Богам, які прагне з намі з'яднацца, накарміць, абараніць ад голаду і холаду, псавання і смерці. Падобным чынам, як безабароннае Немаўля Езус было выратавана ад злога Ірада, так і мы – дзеці ў вачах Бога Айца, які хоча абараніць нас ад варожых сіл цемры. А праз ламанне аплаткай сам Бог заключае з людзьмі запавет міру.

Такім чынам, бачым, якая вялікая мудрасць і Божая любоў была ўтоена ў з'яве Божага Нараджэння. Не будзем паўтараць памылку жыхароў Бэтлеема, асабліва ў час, калі здаецца, што духоўная цемра ахоплівае ўсе сферы нашага жыцця. Давайце шырока адчынім дзверы свайго сэрца і прывітаем Дзіцятка Езуса, каб таксама стаць Божымі дзецьмі і ўбачыць святло праўды. Пажадаем, каб Хрыстос сеў за наш стол як Кароль, Найвышэйшы Святар і Князь Супакою, бо толькі Ён мае ўладу і моц на небе і на зямлі, каб вызваліць ад няшчасцяў, пераследаў і праклёнаў, каб абараняць ад зла і блаславіць.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

*20 снежня – IV Нядзеля Адвэнту*
*Лк 1, 26–38*

Бог паслаў анёла Габрыэля ў горад галілейскі, які называўся Назарэт, да Дзевы, заручанай з мужам па імені Юзаф, з дому Давіда, а імя Дзевы – Марыя. Анёл, увайшоўшы да Яе, сказаў: "Вітай, поўная ласкі, Пан з Табою". Яна ж збянтэжылася ад слоў яго і разважала, што гэта за прывітанне. І сказаў Ёй анёл: "Не бойся, Марыя, бо знайшла Ты ласку ў Пана. І вось зачнеш ва ўлонні сваім і народзіш Сына, і дасі Яму імя Езус. Ён будзе вялікі і будзе названы Сынам Найвышэйшага, і дасць Яму Пан Бог трон Давіда, бацькі Ягонага. І валадарыць будзе над домам Якуба вечна, і валадарству Яго не будзе канца". А Марыя сказала анёлу: "Як станецца гэта, калі я мужа не ведаю?". Анёл сказаў Ёй у адказ: "Дух Святы сыдзе на Цябе, і моц Найвышэйшага ахіне Цябе. Таму і народжанае Святое будзе названа Сынам Божым. Вось і Альжбета, сваячка твая, і яна зачала сына ў старасці сваёй, і ёсць ужо на шостым месяцы тая, якую называлі бясплоднай; бо для Бога няма нічога немагчымага". Тады Марыя сказала: "Вось я, слуга Пана. Няхай мне станецца паводле тваёго слова". І адышоў ад Яе анёл.

### Усё – дар Божай любові

*Сцэна Звеставання – адна з найпрыгажэйшых старонак Евангелля. Яна паказвае, як сустрэліся дзве любові: боская і чалавечая. У асобе Марыі мы бачым настолькі цудоўную прыгажосць чалавека, што сам Бог радуецца ёй і схіляе сваю веліч перад Паннай, абранай Маці Яго Сына. Прыгажосць Марыі струменіць з сэрца, напоўненага Божай любоўю.*

*Анёл называе Марыю "поўнай ласкі" і аб'яўляе, што Яна "знайшла ласку ў Пана". Гэта вельмі важная ісціна: любоў Бога прагне быць прынятай. Таму ўсё ў нашым жыцці з'яўляецца дарам Божай любові, Яго ласкай, якую трэба навучыцца прымаць.*

*Натуральны спосаб развіваць любоў – жаданне прынесці плён. Менавіта ён сведчыць пра прыгажосць і праўдзівасць адносін, якія аб'ядноўваюць людзей. Сустрэча Пана з Марыяй прыводзіць да цудоўнага зачацця Езуса, якое было здзейснена праз Святога Духа. Падобным чынам адбываецца і ў чалавечым жыцці. Кожны мае сваё звеставанне і запрошаны прынесці ўласны плён. Гэтым плёнам любові, якога чакае Бог, з'яўляецца Езус – Ён хоча нарадзіцца ў нас, любіць і збавіць. Прымаючы ласку Усемагутнага, як Марыя, мы дазваляем Яму тварыць цуды ў нашым жыцці.*

*Пане Езу Хрыстэ, учыні, каб маё штодзённае жыццё прыносіла плён любові.*

*27 снежня – Свята Святой Сям'і*
*Лк 2, 22–40*

Калі мінулі дні іх ачышчэння паводле Закону Майсея, бацькі прынеслі Яго ў Іерусалім, каб прадставіць Пану, – як напісана ў Законе Пана, што кожнае першароднае дзіця мужчынскага полу павінна быць прысвечана Пану; – і каб прынесці ў ахвяру, як сказана ў Законе Пана, пару туркавак або двух галубіных птушанят. Быў у Іерусаліме чалавек, імя якога Сімяон. Чалавек гэты, праведны і набожны, чакаў суцяшэння Ізраэля, і Дух Святы спачываў на ім. Было яму прадказана Духам Святым, што ён не зазнае смерці, пакуль не ўбачыць Месію Пана. І прыйшоў ён, натхнёны Духам, у святыню. А калі бацькі прынеслі Дзіця Езуса, каб учыніць з Ім паводле звычаю Закону, ён узяў Яго на рукі, блаславіў Бога і сказаў: "Цяпер адпускаеш слугу Твайго, Валадару, паводле слова Твайго, у спакоі; бо вочы мае ўбачылі збаўленне Тваё, якое падрыхтаваў Ты перад абліччам усіх народаў, святло для асвятлення язычнікаў і хвалу народу Твайго Ізраэля". А бацька і Маці Езуса дзівіліся таму, што было сказана пра Яго. І благаславіў іх Сімяон, і сказаў Марыі, Маці Яго: "Вось гэты прызначаны на падзенне і на паўстанне многіх у Ізраэлі і на знак, якому супраціўляцца будуць. А праз Тваю душу пройдзе меч, каб выявіліся думкі многіх сэрцаў". Была таксама там Ганна прарочыца, дачка Фануэля, з роду Асэра. Яна была ў вельмі старым узросце і пражыла з мужам ад дзявоцтва свайго сем гадоў; удава васьмідзесяці чатырох гадоў, якая не адыходзіла ад святыні, пастамі і малітвамі служачы Богу ўдзень і ўначы. Яна таксама прыйшла ў той самы час і славіла Пана, і казала пра Яго ўсім, хто чакаў вызвалення Іерусаліма. Калі яны выканалі ўсё паводле Закону Пана, вярнуліся ў Галілею, у горад свой Назарэт. Дзіця ж расло і ўмацоўвалася, і напаўнялася мудрасцю, а ласка Божая спачывала на Ім.

### Сям'я – школа любові

*Візіт Святой Сям'і ў іерусалімскую святыню быў прадыктаваны традыцыяй яўрэйскага закона: першароднага сына неабходна прысвяціць Пану. Такі жэст з'яўляўся выразам пашаны да Бога, які лічыўся Даўцам жыцця, а таксама вучыў удзячнасці за дар бацькоўства.*

*Нядзеля Святой Сям'і нагадвае пра ролю, якую сям'я адыгрывае ў жыцці кожнага чалавека. Для ўсіх нас яна з'яўляецца натуральным асяроддзем узрастання – як у рэлігійным, так і ў сацыяльным плане. Бацькі вучаць любіць Бога і іншых людзей.*

*Молімся за сем'і, каб, захоўваючы вернасць Найвышэйшаму і Яго запаведзям, яны змаглі справіцца з выклікамі, якія ставіць перад імі свет, каб здолелі ахвяраваць Богу свой каштоўны час і ніколі не грэбавалі святкаваннем важных момантаў сямейнага жыцця.*

*Пане Езу Хрыстэ, навучы сучасных сужэнцаў пражываць сваё жыццё ў гармоніі з Табой.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

**Паважаны Ксёндз Пробашч Юрый Жэгарын!**
*Нязгаснай Вам веры, дароў Духа Святога,*
*Падтрымкі Хрыстовай у кожную хвіліну,*
*Ахвярнага служэння, ласкі ад Пана Бога*
*На светлым шляху ў Нябесную Краіну.*
*Жадаем заступніцтва Божай Матулі,*
*Моцнай апекі Міхала Арханёла.*
*Хай Божае Дзіцятка Вас прытуліць*
*Ля святога алтара Хрыстовага Касцёла.*

*Парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Навагрудку*

***Паважанаму Ксяндзу Руслану Мазану*** *жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, плённай душпастырскай паслугі, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Няхай Хрыстос адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, Марыя ахінае пяшчотай, а Святы Дух вядзе праз жыццё.*

*Былыя парафіяне са Станевічаў*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю*** *жадаем, каб на Вас шчодра сыходзілі Божыя ласкі, стала адчувалася апека Божай Маці і святога заступніка, дары Святога Духа ўмацоўвалі, а побач заўсёды былі добразычлівыя людзі.*

*Парафіяльны камітэт і вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ СВЯТ БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ І НОВАГА ГОДА

***Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзу Рэдактару Юрыю Марціновічу, Ксяндзам Яраславу Грынашкевічу, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Салабуду, Алегу Канановічу і Яну Раманоўскаму*** *жадаем шчодрых дароў ад Дзіцятка Езус, моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, душэўнага супакою, а таксама добрых людзей побач.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

***Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму*** *жадаю радасных і пагодлівых дзён, мноства шчаслівых хвілін, душэўнага супакою і поспехаў у новым годзе.*

*С. Ірэна Златкоўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Дапаможніц Чыстцовым Душам*

***Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Юрыю Марціновічу, Яну Сарэлу і Яну Раманоўскаму*** *жадаем дароў святога Духа, апекі Маці Божай, душэўнага супакою, моцнага здароўя і шчасця. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, а Дзіцятка Езус дадае сіл і цярплівасці ў складаны час.*

*Апостальства "Маргарытка" і Легіён Марыі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

***Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Паўлу Шчарбіцкаму, Артуру Ляшнеўскаму, Аляксандру Мятліцкаму, Віктару Захарэўскаму, Алегу Каралёву, Алегу Жураўскаму, Уладзіславу Сурвілу і Яўгену Учкуронісу*** *жадаю здароўя на доўгія гады жыцця. Няхай Пан Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, умацоўвае веру і надзею, а Маці Божая штодзённа апекуецца.*

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

***Паважанаму Ксяндзу Яну Кучынскаму*** *жадаю шчасця, радасці, моцнага здароўя на доўгія гады, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і благаслаўлення ад Дзіцятка Езус.*

*З малітвай і ўдзячнасцю працаўніца гродзенскай катэдры Пелагея*

***Паважаным Ксяндзам Віктару Захарэўскаму, Паўлу Звяжынскаму і Здзіславу Пікулу*** *жадаем здароўя на доўгія гады, патрэбных ласкаў ад усемагутнага Бога і сілы для выканання душпастырскай паслугі. Няхай навароджаны Збаўца благаслаўляе, а Панна Марыя няспынна Вамі апекуецца.*

*Парафіяне з Варнянаў і Вароны*

***Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму*** *жадаем здароўя на доўгія гады, Божай радасці на кожны дзень святарскай паслугі, добразычлівых людзей, гатовых прыйсці на дапамогу, а таксама сіл у пераадоленні чалавечых слабасцей і жыццёвых перашкод.*

*Андрэй Слонімец і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

***Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну*** *жадаем моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою, Божага благаслаўлення на кожны дзень новага года і нястомнай апекі Маці Божай.*

*Вернікі парафіі Звеставання НПМ у Мяжэрычах*

***Паважаным Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу і Сястры Зоф'і Смятанцы*** *жадаем здароўя, апекі Панны Марыі, нязгаснага запалу ў паслузе Богу і людзям, радасных і спакойных дзён. Дзякуем за добрае сэрца і адкрытасць на кожнага чалавека.*

*Вернікі з Жамыслаўля*

***Паважаным Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю і Сястры Ганне Насевіч*** *жадаем здароўя, радасці і шчасця. Няхай навароджаны Езус Хрыстус адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі і ўзмацняе ў нялёгкім служэнні, а Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень.*

*Вернікі з капліцы Ліпічна*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану*** *жадаем апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень, нястомнасці ў святарскай паслузе і душэўнага супакою. Няхай Дзіцятка Езус адорыць Вас моцным здароўем на доўгія гады жыцця.*

*Ружанцовае кола НПМ Тракельскай, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Юрацішкаў*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Зянону Рамейку*** *жадаем, каб Бог шчодра ўзнагародзіў Вас за нялёгкую працу і благаславіў нястомнае служэнне. Няхай святая ноч напоўніць сэрца спакоем і радасцю, а Божая моц спадарожнічае на працягу ўсяго новага года. З нагоды імянін жадаем таксама моцнага здароўя, аптымізму, цярплівасці і верных сяброў.*

*Ружанцовыя колы і Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Астрыны*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Віталію Сідорку, Паўлу Безляповічу і Раману Вайцяховічу, Сёстрам Галіне і Ганне*** *жадаем, каб Дзіцятка Езус адорвала Вас спакоем, радасцю і любоўю, Маці Божая атуляла мацярынскай апекай, а Святы Дух апраменьваў сваім святлом кожны Ваш дзень.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Ліды-Фары*

***Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту*** *жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, нястомнай радасці, шчасця, шмат сіл і стойкасці ў святарскай паслузе.*
*З нагоды дня нараджэння жадаем таксама, каб міласэрны Бог благаслаўляў кожную хвіліну Твайго жыцця, Маці Божая дапамагала ў складаных хвілінах, а Святы Дух шчодра адорваў сваімі дарамі.*

*Бацькі і брат з сям'ёй*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Аляксандру Фядотаву, Віталію Венцкевічу, Аляксею Венцкевічу, Сёстрам Дароце і Аляксандры, арганістцы Юліі*** *жадаем шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езус у штодзённым жыцці. Няхай Бог нястомна Вас аберагае і раз'ясняе над Вамі сваё аблічча, а Маці Божая апекуецца.*

*Парафіяльны камітэт і вернікі парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

***Паважаным Ксяндзам Міхалу Ластоўскаму і Артуру Малафею*** *жадаем, каб кожны дзень быў напоўнены Божай моцай, святлом, любоўю, людской зычлівасцю і дабрынёй. Няхай Дзіцятка Езус благаслаўляе Вас, Маці Божая будзе Дапаможніцай, а Святы Дух асвячае жыццёвы шлях.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Радзюку, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму, Паўлу Урбану і Паўлу Раманоўскаму*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорваў Вас сваімі ласкамі: здароўем, радасцю і душэўным супакоем, а Бэтлеемская зорка вяла найпрыгажэйшай дарогай да Пана.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Беланосу*** *жадаем, каб Ваш святарскі шлях быў шчаслівы і благаслаўлёны, а навароджаны Езус адорваў сваімі ласкамі і добрым здароўем на доўгія гады жыцця, сілай і стойкасцю, каб магчы пераадольваць усе цяжкасці.*

*Парафіяне з Макараўцаў*

***Дарагому Ксяндзу Вячаславу Матукевічу*** *жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, шчырых і верных людзей побач, шчодрых ласкаў ад навароджанага Езуса і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на шляху служэння Богу і людзям.*

*Мама і тата*

***Паважаным Айцам Пробашчу Антонію Пажэцкаму і Аляксею Юхневічу, а таксама закрыстыяніну Станіславу*** *жадаем здароўя, аптымізму, душэўнага супакою і поспехаў у працы, добрых і светлых дзён. Няхай побач будуць толькі добразычлівыя людзі, а Дзіцятка Езус адорвае сваім благаслаўленнем.*

*Рыцарства Беззаганнай і Кола адарацыі з касцёла МБ Анёльскай у Гродне*

***Паважаным Ксяндзам Юрыю Жэгарыну і Віталію Цыбульскаму*** *жадаем Божых ласкаў і міласэрнасці, непахіснай вернасці Хрысту, заступніцтва Панны Марыі і ахвярнага служэння на хвалу Богу. Няхай Хрыстова любоў асвятляе Ваш шлях, а Міхал Арханёл вядзе да спаткання з Езусам у Нябёсах.*

*Парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Навагрудку*

***Паважаным Ксяндзам Валерыю Спірыдону і Андрэю Пышынскаму*** *жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчодрых Божых ласкаў і благаслаўлення ад навароджанага Збаўцы. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены радасцю і спакоем.*

*Вернікі з капліцы Вердамічы*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку*** *жадаем апекі Маці Божай і святога заступніка, шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езус і дароў Святога Духа. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны.*

*Вернікі з капліц Верабейкі і Вердамічы*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Раману Ялоўчыку*** *жадаем благаслаўлення ад Дзіцятка Езус, апекі Маці Божай на святарскім шляху, дароў Святога Духа, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, здароўя, душэўнага супакою і шчырых людзей побач.*

*Вернікі парафіі св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Валерыю Спірыдону, Юрыю Канапельку і Андрэю Пышынскаму*** *жадаем, каб святло Бэтлеемскай зоркі асвячала і ўказвала дарогу да Езуса, Маці Божая атуляла плашчом сваёй мацярынскай апекі, а надыходзячы новы год быў поўны добрага зрароўя, поспехаў і ўсіх Божых ласкаў.*

*Вернікі парафіі Мсцібава*

***Паважанаму Ксяндзу Яну Балтрукевічу*** *жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою і радасці. Няхай Дзіцятка Езус напаўняе Вас сваёй моцай і благаслаўленнем, а Маці Божая чувае над Вамі на дарозе веры.*

*Вернікі з Навагрудка*

***Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу*** *жадаю моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, радасці і назгаснага запалу ў сэрцы.*
*З нагоды 5-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаю таксама поспехаў у паслузе, шмат сіл і стойкасці.*

*Спадарыня Яніна з сям'ёй з Воўпы*

***Паважаным Ксяндзам Юрыю Марціновічу, Леону Лішыку, Айцам Валерыю Мазюку, Аляксандру Дрогасю і Вальдэмару Слоту*** *жадаем моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай працы. Няхай маленькі Езус шчыра Вас благаслаўляе, Бэтлеемская зорка асвячае кожны дзень, а Маці Божая атуляе і аберагае ад нягод.*

*Спадарыня Яніна з сям'ёй і вернікі з Воўпы*

***Паважаным Сёстрам Марыі Стасевіч, Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Валянціне Кот, Юліі Клявец, Мар'яне Алешчык, Філатэі Ціхановіч, Аляксандры Арэшка, Агаце Смольскай і Клары Волчэк*** *жадаю, каб жыццё было напоўнена святлом і любоўю, а Пан Езус вёў прыгожай дарогай, адорваючы здароўем і цярплівасцю.*

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

***Паважаным Ксяндзу Пробашчу Віктару Субелю, Сёстрам Агнешцы і Ганне, Кансэкраваным Удовам Зоф'і і Сабіне*** *жадаем благаслаўлення ад Дзіцятка Езуса. Няхай навароджаны Збаўца аддаліць ад Вас смутак і трывогі, напоўніць сэрцы радасцю і надзеяй на лепшае заўтра і захавае ад няшчасцяў.*

*Касцёльны камітэт і Кола Жывога Ружанца МБ Балеснай з Гіравічаў, а таксама парафіяне касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Сурвілішках*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу*** *жадаем Божага благаслаўлення, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці, добрага здароўя, моцнай веры і любові да сваёй працы.*
*З нагоды дня нараджэння жадаем таксама, каб спакой і радасць пасяліліся ў Вашым сэрцы, а ўсмешка ніколі не сыходзіла з твару.*

*Вернікі з Астрыны*

***Паважаным Ксяндзу Пробашчу Віктару Велівісу, Сястры Паўліне і арганістцы Анастасіі*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца адарыў Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем, душэўным супакоем і нязгасным запалам у працы. Няхай мары здзяйсняюцца, а Маці Божая ахінае Вас сваёй апекай.*

*Парафіяне касцёла св. Роха ў Гродне*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Здзіславу Пікулу, Казіміру Мураву, Алегу Жураўскаму, Аляксандру Пятровічу, Артуру Ляшнеўскаму, Сёстрам Караліне і Наталлі*** *жадаем добрага здароўя на доўгія гады, радасці, сілы, стойкасці і душэўнага супакою. Няхай навароджаны Хрыстос благаслаўляе і ахоўвае Вас, а Маці Божая ахінае сваёй апекай.*

*Парафіяне з Дзятлава*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Пузыну, Аляксандру Пятровічу, Яну Варанецкаму і Юрыю Садоўскаму*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца адарыў сваімі дарамі: здароўем, радасцю і душэўным супакоем. Няхай Бог, які ўказаў Вам шлях да святарства, вядзе праз жыццё і дапамагае пераадольваць усе цяжкасці.*

*Вернікі парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Раманоўскаму*** *жадаем шчырага творчага запалу, шчодрага плёну ў Вашай пачэснай працы, цярплівасці, моцнага здароўя і благаслаўлення ад Дзіцятка Езус. Няхай Святы Дух натхняе Вас ва ўсіх добрых пачынаннях.*

*Парафіяне касцёла МБ Ружанцовай у Граўжышках*

***Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу*** *жадаем добрага здароўя, поспехаў у паслузе і людской зычлівасці. Няхай Святая Сям'я мае Вас у сваёй апецы, Бэтлеемская зорка асвячае шлях, а добры Бог дапамагае рэалізаваць усе намеры.*

*Вернікі касцёла св. Францішка Асізскага ў Свіслачы*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу*** *жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, радасці, усмешак і душэўнага супакою. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас ласкамі і благаслаўленнем, а Насвяцейшая Панна Марыя ахінае плашчом сваёй апекі.*

*Парафіяне касцёла Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юрыю Ясевічу, Руслану Мазану і Андрэю Ядкоўскаму*** *жадаем здароўя, поспехаў, сіл, радасці і стойкасці ў складаных хвілінах жыцця. Няхай Бэтлеемская ноч напоўніць сэрца спакоем і радасцю, а Божая моц спадарожнічае Вам на працягу ўсяго жыцця.*

*Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна і вернікі са Станевічаў*

***Паважаным Айцам Пробашчу Аляксандру Махначу, Вітольду Пяцельчыцу і ўсім Айцам Піярам*** *жадаем мноства ласкаў ад Усемагутнага на кожны дзень, моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай гэтыя цудоўныя святы і далейшыя дні жыцця будуць напоўнены спакоем, цеплынёй і дабрынёй.*

*Вернікі парафіі Ліда-Індустрыяльны*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яўгену Учкуронісу, Віталію Валюку і Сястры Магдаліне Кулай*** *жадаем, каб навароджанае Дзіцятка Езус адорвала Вас сваімі ласкамі, напаўняла спакоем, радасцю, любоўю і благаслаўляла кожны дзень, Маці Божая заўсёды апекавалася Вамі, а Бэтлеемская зорка паказвала прыгожы шлях да Пана.*

*Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" і вернікі парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

***Паважаным Айцам Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Ядкоўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану і Зміцеру Чарнелю*** *жадаем, каб навароджанае Божае Дзіця нястомна адорвала Вас сваімі дарамі, добрым здароўем, нязгасным запалам да службы Богу і людзям, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінала Вас плашчом сваёй мацярынскай апекі.*

*Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства "Маргарытка" і вернікі парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

***Паважаным Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Агнешцы і Ганне, Кансэкраваным Удовам Зоф'і і Сабіне*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца, які прыносіць спакой усяму чалавецтву, удзяліў Вам свае дары: здароўе, радасць і душэўны супакой, – а таксама ахінуў дабрынёй і зылівасцю ад людзей навокал.*

*Парафіяне касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму*** *жадаем моцнага здароўя і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай Дзіцятка Езус благаслаўляе кожную хвіліну Вашага жыцця, Маці Божая аберагае ад нягод, а Бэтлеемская зорка асвячае шлях да Пана.*

*Вернікі з в. Малінавая*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**У сувязі са святамі Нараджэння Пана і Новым годам чарговы нумар газеты "Слова Жыцця" выйдзе 10 студзеня 2021 года.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5246; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.